

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 43 (527) — Нядзеля, 30-га кастрычніка 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Пралетарскі інтэрнацыяналізм ці расейскі нацыяналізм?

Трэба сказаць, што цьвёрдая скала амэрыканскага русафільства пачынае паволі, але няспынна разбурацца пад ударамі аб'ектыўнай рэальнасьці. І трэба дадаць, што гэтую аб'ектыўную рэальнасьць пачынаюць падаваць да ведама шырокім колам амэрыканскага грамадзтва самі-ж амэрыканскія дасьледвальнікі, пераважна маладыя. Маем тут на думцы шэраг кнігаў, якія апошнім часам былі выдадзены пераважна гэтак званымі «расейскімі інстытутамі» (якая гіронія лёсу) унівэрсытэтаў Задзіночаных Штатаў Амэрыкі.

Аднэй з апошніх такіх кнігаў зьяўляецца вялікая й салідная праца Эліёта Гудмэна «Савецкі ўзор сусьветнай дзяржавы», якая выйшла ў выдавецтве «Расейскага інстытуту» Калюмбійскага унівэрсытэту.*) Тэма кнігі, як паказвае сам загаловак, — спроба пазнаёміць амэрыканскую грамадзкасьць, што цікавіцца палітычнымі, у прыватнасьці, савецкімі праблемамі, з савецкім уяўленьнем будучага сусьветнага Саюзу сацыялістычных рэспублік. На падставе дакладнага гістарычнага й сучаснага аналізу савецкай палітычнай думкі, савецкай практычнай палітыкі і характэрыстычных савецкіх палітычных кіраўнікоў — Леніна, Сталіна ды Хрушчова, аўтар прыходзіць да перакананьня, што вобраз будучай сусьветнай камуністычнай дзяржавы, паводля уяўленьня крамлёўскіх валадароў, цесна зьвязаны з расейскім нацыяналізмам, зь гегемоніяй ня толькі палітычнай, але й культурнай Расеі ўва ўсім сьвеце.

Гудмэн уважае, што такое ўяўленьне пра будучую сусьветную сацыялістычную дзяржаву зрадзілася ў выніку доўгатрывалага культываваньня расейскага нацыяналізму ў Савецкім Саюзе. У III разьдзеле свае працы, загалоўленым «Уплыў расейскага нацыяналізму да 1934 году», аўтар на падставе цытатаў і гістарычных фактаў даводзіць, што Ленін і Сталін былі расейскімі нацыяналістамі ды што ў Савецкім Саюзе праводзілася русыфікацыйная палітыка.

Тое, што ў Савецкім Саюзе называецца «пралетарскім інтэрнацыяналізмам», гаворыць аўтар, у запраўднасьці зьяўляецца расейскім нацыяналізмам, а тое, што ў звычайнай, несавецкай мове разумеецца пад інтэрнацыяналізмам, у савецкай тэрміналёгіі называецца «буржуазным нацыяналізмам». Леніна ён называе расейскім нацыяналістым, які прытрымліваўся лёзунгу: «Усё, што добрае для расейскага народу, аўтаматычна зьяўляецца добрым для сацыялістых кажнай нацыі». Тэорыі Леніна пра супрацоўніцтва нерасейскага пралетарыяту з расейскім для дабра рэвалюцыі былі, на думку аўтара, прыкрыцьцём русыфікацыйнай палітыкі. Раўнапраўнасьць нерасейскіх пралетараў з расейскімі Ленін разумеў так, што першыя павінны ўсвойваць расейскую культуру.

Ад самага пачатку свайго існаваньня бальшавіцкая партыя базавалася на Расейцах, сьцьвярджае аўтар, і гэта забясьпечвала Расейцам поўны кантроль над партыяй. У пацьверджаньне гэтага ён падае статыстычныя дадзеныя, ведамыя нашым чытачом, але новыя для шырэйшых колаў амэрыканскага чытача, кармленага дасюль панацэямі, што партыя базавалася на нейкім абстрактным «камунізьме». Шмат месца аўтар прысьвячае змаганьню паміж расейскімі й нерасейскімі элемэнтамі ў партыі пасьля стварэньня Савецкага Саюзу і прыходзіць да высновы, што расейскі элемэнт выйшаў з гэтага змаганьня пераможнікам.

Цікавыя ягоныя меркаваньні на тэму кіраўнічага актыву ў партыі. Да гэтага часу, як ведама, на Захадзе была пашыраная думка, што гэты элемэнт быў нерасейскім, з паходжаньня, што прыводзіла да хвальшывых высноваў, быццам партыя мела «інтэрнацыянальны» характар. Аўтар запярэчвае гэтае цьвярджаньне і гаворыць, што ўсе гэтыя кіраўнікі былі або Расейцамі або поўнасьцяй зрусыфікаванымі, што яны былі «вялікарасейскімі шавіністымі». Да такіх шавіністых ён залічае таксама Сталіна, Троцкага, Дзяржынскага й іншых. З гэтага пункту гледжаньня ён трактуе і ўсё змаганьне, праводжанае партыяй супраць нерасейскіх камуністых, якія стаялі на пазыцыях пралетарскага інтэрнацыяналізму, супраць расейскага нацыяналізму, і за гэта былі зьліквідаваныя Сталінам, які абараняў расейскі нацыяналізм. Пасьля зьнішчэньня актыўных антырасейскіх элемэнтаў у нерасейскіх рэспубліках расейскі нацыяналізм — сьцьвярджае аўтар — яшчэ больш узмацніўся. «Ідэя сусьветнага братэрства і пралетарскай роўнасьці народаў, згуртаваных у сусьветнай дзяржаве, засталася абстрактнай, у той час, як праблема ўтрыманьня й замацаваньня магутнасьці на базе расейскай дзяржавы была беспасярэднай і канкрэтнай... Адзіным крытэрыем 'інтэрнацыяналізму' была глёрыфікацыя і ўзвышэньне на расейскасьці базаванай і Расейцамі апанаванай савецкай дзяржавы... прататыпу вуніі савецкіх сацыялістычных рэспублікаў».

Гэтак званы савецкі патрыятызм, гэта, паводля аўтара, таксама нічога іншага, як толькі замаскаваны вяліка-расейскі нацыяналізм. Гэта датычыцца таксама і так званага «братняга сужыцьця» ўсіх нацыяў у СССР. Гэтае «братняе сужыцьцё» палягае на поўным падпарадкаваньні й паслухмянасьці Маскве. Усе гэтыя праблемы аўтар дакладна аналізуе, падаючы цытаты й гістарычныя факты. Найвышэйшым пунктам росквіту расейскага шавінізму аўтар уважае пасьляваенны час, калі Сталін падымаў тосты ў гонар «вялікага расейскага народу» і «караў», гэта значыць вынішчаў нерасейскія народы. Тут аўтар падае дакладныя дадзеныя.

Зусім правільна адзначае аўтар, што ў пасьлясталінскім пэрыядзе нічога не зьмянілася. На ягоную думку адзіны Бэрыя, змагаючыся за ўладу, хацеў апэрыцся на нерасейскіх элемэнтах, але адразу-ж пасьля ліквідацыі яго зноў расквітнела глёрыфікацыя Расейцаў. Аўтар адзначае, што ўся савецкая палі-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

### ВІТАНЬНІ ПРЭЗЫДЭНТУ АЙЗЭНГАЎЭРУ

**14 кастрычніка Прэзыдэнту Д. Айзэнгаўэру ад імя ўраду БНР была выслана наступная тэлеграма:**

**Прэзыдэнту Айзэнгаўэру, Белы Дом, Вашынгтон.**

**Урад Беларускае Народнае Рэспублікі ў егзылі, у дзень 70-х угодкаў Вашага нараджэньня, перасылае Вам прывітаньні ды выказвае сваё захапленьне Вашай непахіснай пастаўай у вабароне свабоды й міру із справядлівасьцяй для народаў усяго сьвету.**

**М. Абрамчык**

**Прэзыдэнт Рады Беларускае Народнае Рэспублікі**

**Парыж, Францыя.**

# Нельга маўчаць

Калі мы пакідалі родную Бацькаўшчыну й ішлі на выгнаньне, дык ня толькі па тое, каб ратаваць сваё жыцьцё перад бальшавіцкім тэрорам і знайсьці ў вольным сьвеце спрыяльныя ўмовы асабістага існаваньня, але й дзеля таго, каб прадаўжаць нашую нацыянальна-вызвольную дзейнасьць на чужыне, для вядзеньня якой на Бацькаўшчыне ня было ўжо месца. Гэтыя высокія заданьні, ускладзеныя на нас у сілу заіснаваўшай палітычнай сытуацыі, і вызначылі нашую ролю на чужыне, як палітычных, а не заработных эмігрантаў. Гэта ня гледзячы на тое, што дзеля фізычнага існаваньня мы змушаныя таксама працаваць і дзеля заработку ў галінах, якія зь беларускай нацыянальнай дзейнасьцяй ня маюць нічога супольнага. Але апрача працы на ўтрыманьне, кажны з нас мае й можа мець заўсёды дастаткова часу, энэргіі й магчымасьцяў, каб сваей працай сплачваць і наш нацыянальны доўг.

Магчымасьці й патрэбы для нашай нацыянальнай дзейнасьці на эміграцыі вялізарныя. Яны вялізарныя ў роўнай меры як у нашым нутраным грамадзкім жыцьці, гэтак і навонкі — у галіне рэпрэзэнтацыі й прапаганды нашае нацыянальнае праблемы ў вольным сьвеце. У нас ня толькі ніколі ня было лішніх людзей пры працы ў кажнай галіне нацыянальнага жыцьця, але ніколі ня было навет дастаткова. Патрэбныя людзі даслоўна ў кажнай галіне ўжо праводжанае дзейнасьці, а ёсьць галіны зусім яшчэ ня кранутыя якраз з прычыны недахопу адпаведных працаўнікоў.

І вось пры такой сытуацыі, калі адчуваецца вялікая патрэба ўсьцяж новых сілаў у кажнай галіне нацыянальнае дзейнасьці, паасобныя адзінкі, якія раней таксама нешта карыснае рабілі, а некаторыя зь іх навет прэтэндавалі да кіраўнічых роляў у нашым грамадзтве, паступова, неўзаметку выходзяць з нашых радоў. Яны пачынаюць рабіцца абыякавымі да нашых грамадзкіх і нацыянальных патрэбаў і паступова грэзнуць у нездаровай атмасфэры чыста асабістых, або, як у такіх выпадках гаворыцца, скурных зацікаўленьняў.

Кажны зь іх знаходзіць нейкую аб'ектыўную, быццам зусім ад яго незалежную прычыну ягонага адыходу ў стан поўнае бязьдзейнасьці.

Так як у Задзіночаных Штатах Амэрыкі й Канадзе сканцэнтравалася асноўная маса нашае эміграцыі, там гэтае зьявішча ўцёкаў ад грамадзкае дзейнасьці найбольш значнае й найбольш кідаецца ў вочы. Там ужо паўсталі паасобныя катэгорыі грамадзкіх дызэртыраў, кажная зь якіх пасвойму апраўдвае сваю бязьдзейнасьць і высоўвае «незалежныя ад яе прычыны» гэтае бязьдзейнасьці.

Адныя апраўдваюцца тым, што быццам у васяродзьдзях і арганізацыях, у якіх яны раней былі актыўныя, стварылася нейкая нездаровая атмасфэра, пачаліся ўзаемныя інтрыгі або нехта займаецца разьбіваліцкай акцыяй і такім чынам адпіхае іншых, а ўсё гэта разам іхнае далейшае супрацоўніцтва робіць немагчымым. А таму той ці іншы, маўляў, ня бачыць іншага выхаду, як пакінуць дадзеную арганізацыю й спыніць усякую працу для грамадзтва. Калі-ж і ўзапраўды былі такія прычыны, дык тыя, што аж гэтак на іх рэагуюць, пайшлі такім чынам па лініі найменшага супраціву, бразнулі дзьвярыма, пры чым зрабілі кіслую міну пакрыўджаных й недаацэненых герояў.

Праўда, нярэдкія выпадкі, што ў тых ці іншых арганізацыях або групах бывае ня ўсё ў парадку. Але гэта ў ніякім выпадку ня можа быць апраўданьнем для бязьдзейнасьці сабскай. У такіх выпадках якраз трэба асабліва актывізавацца, каб атмасфэру аздаравіць або знайсьці сабе поле іншае дзейнасьці, якое заўсёды бывае шырокае і навет неабмежаванае.

Іншыя дзеля апраўданьня знаходзяць іншыя, але ня менш наіўныя прычыны: маўляў ягоная заработная праца на ўтрыманьне сябе й сям'і забірае ўвесь ягоны час, што на нейкую іншую дзейнасьць зусім не астаецца месца. Толькі наіўны мог-бы паверыць у нешта падобнае. Такім перапрацаваным і змораным найлепш можна адказаць, што і ўсе тыя, якія нейкую частку свайго часу й энэргіі адводзяць для грамадзкай дзейнасьці, за якую, як ведама, ніхто ня плаціць, маглі-б ня зь меншым посьпехам гэты час таксама выкарыстаць дзеля заработнай працы. Дык такія апраўданьні — гэта толькі зьдзеклівы цынізм у дачыненьні да тых, што ахвярна працуюць на грамадзкай ніве. Куды больш да твару было-б сказаць адкрыта й чэсна: нічога не раблю, бо не хачу.

Ведаем і такіх бязьдзейнікаў, якія знаходзяцца ў настолькі памыснай сытуацыі, што зусім не занятыя й заработнай працай, бо на іхнае ўтрыманьне працуюць іншыя сябры сям'і. Гэтыя людзі **звычайна любяць** разважаць аб нашых нацыянальных патрэбах, глыбака спачуваюць, што шмат што ня робіцца, ахвотна крытыкуюць дзейнасьць іншых, але калі ім запрапануюць за нешта таксама ўзяцца, дык пачуем адказ: «няма часу». Ёсьць у нас і такія!

Бываюць вельмі рэдкія, праўдзівей паадзіночныя выпадкі, калі некаторыя людзі, у сілу спэцыфікі свае прафэсыянальнай дзейнасьці, узапраўды ўвесь

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Крывой дарогай

Аматарам беларускага мастацтва, пэўна-ж, даўно ўжо прыходзіла думка: а чаму ў БССР дагэтуль ня было зарганізавана моцнага й высокамастацкага танцавальнага ансамблю? Беларусь заўсёды славілася сваімі народнымі скокамі й іх выкананьнем. Якія цуды рабіў тут Буйніцкі й ягоны нацыянальны тэатр! Навет і ў савецкія часы беларускія танцы ў пастаноўцы чулага і ўдумлівага знатака — майстры Алексютовіча — на маскоўскай дэкадзе здабылі й захаплялі масы гледачоў. Беларускія танцавальныя традыцыі выкарыстоўвалі шматлікія балетмайстры аж да ведамага Майсеева ўлучна і несьлі іх па краінах і сцэнах СССР, Заходняй Эўропы й Амэрыкі. Цяпер амаль што няма чалавека, які, любячы народныя танцы, ня ведаў-бы аб «Лявонісе», «Юрку», «Бульбе».

Але танцавальнага беларускага выканальніка даўно ўжо няма, у той час, калі трыюмфальныя падарожжы па сьвеце робяць танцавальныя ансамблі Украіны й Грузіі, выходзяць на міжнародную арэну й ансамблі іншых нацыянальнасьцяў.

Таму першая дробная газэтная зацемка аб зарганізаваньні ў сталіцы БССР новага, асобнага танцавальнага ансамблю не магла не зацікавіць кажнага аматара беларускага мастацтва. Зацікаўленьне гэтае, праўда, выклікала разам і поўнае зьдзіўленьне. Папершае — чаму гэтую ролю не даручылі перш за ўсё існуючай ужо танцавальнай групе беларускага народнага хору пад кіраўніцтвам Цітовіча? Столькі славахвалы сьпявалі газэты гэтай адзінцы, а ўрэшце рэшт, значыцца, яна не задаволіла ані кіраўніцтва, ані крытыку, ані простых сьмяротных падсавецкіх людзей, калі ўзяліся стварыць зусім новую, з новых кадраў мастацкую адзінку. Можна параіць тут чытачу савецкіх інфармацыяў і рэцэнзіяў трымацца слушных словаў К. Пруткова: «Ня вер таму, што напісана!»

Пасьля гэтага першага непаразуменьня адразу ўзьнікае другое — новай адзінкай даручылі кіраваць маловедамаму ў артыстычных колах Апанасенку — Украінцу й заслужанаму, як пішуць, артыстаму УССР. Зразумела, мы зусім ня прыхільныя да ўкраінскага мастацтва, але традыцыі беларускія, асаблівасьці нацыянальныя, свае прыёмы, манеры, собскі стыль ставяць іншыя патрабаваньні да мастацкага кіраўніцтва й балетмайстэрства беларускаю адзінкаю. Бяручы на ўвагу беларускія танцавальныя традыцыі, дзейнасьць Буйніцкага, Галубка, Алексютовіча, наяўнасьць у БССР вялікай балетнай трупы опэрнага беларускага тэатру, адумысловае балетнае (харэаграфічнае) вучылішча, значыцца наяўнасьць кваліфікаваных беларускіх кадраў, аддаваць кіраўніцтва ў чужыя рукі — справа ня толькі не разумная, але й шкодная. Падобнае «мудрае вырашэньне» партыйных кіраўнікоў сьветчыць аб тым, што нацыянальная асаблівасьць беларускага мастацтва іх ня цікавіць.

Адсюль ясна, што мы з даволі трывожным зацікаўленьнем пачалі сачыць за падрыхтоўкай да практычнай дзейнасьці гэтак званага Дзяржаўнага ансамблю танцу Беларускай ССР. Нарэшце ў друку зьявіліся першыя зацемкі аб пачатку выканаўчай працы названага ансамблю. Газэта «Літаратура і мастацтва» (7. 6. 60) дала сваёй зацемцы загаловак «Першы посьпех ансамбля», аднак, ня гледзячы на прыхільныя дачыненьні да новай нацыянальнай мастацкай адзінкі, і яна не магла не адцеміць з жалем, што, калі танцы іншых народаў (украінскія, расейскія, малдаўскія) выконваюцца бездакорна, дык **народныя беларускія танцы знаходзяцца на слабой узроўні**. «Балетмайстар баіцца надакучыць гледачу паказам народных беларускіх танцаў», асабліва ў іх традыцыйным цудоўным выглядзе; Апанасенка ўсё перарабляе на свой лад, а ў выніку ўсё гэта «не адпавядае характару танцу». Газэта мусіць навет прызнацца, што «ў пастаноўцы беларускіх танцаў амаль страчаны іх нацыянальны характар».

Замест бліскучага выяўленьня ўсіх хварбаў і адценьняў народнага беларускага скоку — згубленьне нацыянальнага характару. Яшчэ адна праява «мудрага» партыйнага кіраўніцтва.

Газэта «Зьвязда» (1. 6. 60) ў рэцэньзіі, праўда, не ў занадта моцных тонах, але ўсё-ж такі хваліць першы выступ танцавальнага ансамблю й ягонага кіраўніка. Цікава, што тут ні словам не ўспамінаецца аб нацыянальным беларускім стылю. Гэтай партыйнай газэце больш важна «інтэрнацыянальнае», унітарнае ўражаньне і сяродкі іх дзеля камуністычнага выхаваньня. Аднак ужо самое замоўчваньне нацыянальных асаблівасьцяў беларускага танцу гаворыць аб тым, што іх у паказе ансамблю ня было.

Адклікнулася на першы выступ танцавальнага беларускага ансамблю й цэнтральная маскоўская газэта «Советская культура», даўшы шматзначны назоў невялікай зацемцы «Самы малады» (25. 8. 60). І, зразумела, чытаем там, што галоўныя вынікі падрыхтоўкі ансамблю адбіліся ў «Гапаку», «Малдаўскай суіце», «Чэскай польцы», а вось у беларускіх танцах — **«вельмі мала характэрнага»**, туды трапілі навет «вялікія піруэты» клясычнага, віртуознага балету. Рэцэнзэнт пытаецца: «Навошта гэта, такое засьмечваньне?» Калі маскоўскія крытыкі адразу-ж заўважылі адсутнасьць характэрна-беларускіх рысаў, дык што-ж гаварыць тут беларускім музыказнаўцам!? Даводзіцца толькі апускаць галаву й сорамна хаваць вочы.

Такім чынам вялікае прынцыповае заданьне стварыць моцнага й яскравага рэпрэзэнтанта беларускага нацыянальнага скоку, ягонай гісторыі, традыцыі й разьвіцьця, заданьне на якое чакалася ўжо столькі год, самым ганебным спосабам правалілася. Колькі ўжо такіх правалаў бачым мы за часы савецкай улады!? Ілжывыя мэты й крывыя дарогі не вядуць да дабра.

Мікола Куліковіч

*Нататкі чытача*

# Падсьцёбіч

Юркаму чалавечку, як кажуць, стукнула пяцьдзесят год. Завуць яго — Алесь Кучар. А мянуюць аж падвойным адзначаньнем — крытык і драматург. Ягоная асоба не заслугоўвае, каб на ёй запыняцца. За плячыма ў хатулі одно пацяробкі зламыснасьці. Але яму прыпісваюць навет вунь якія заслугі. Гэтае прыпісваньне й вымушае сказаць колькі словаў пра нечаканага юбіляра й тую атмасфэру, у якой ён выявіў свой найбольшы спрыт.

Ня пісьменьнікі, а праўленьне іхнага казённага саюзу ўшанавала Кучара адмысловым віншаваньнем. У ім, паводля літаратурнае газэты адзначалася ў стылі ўзвышаным: нібы Кучаравы артыкулы «былі заўсёды прасякнутыя клопатамі... каб мастацкая літаратура служыла народу», што крытык «зьвязаў сваю дзейнасьць з барацьбой за... далейшы росквіт» беларускае літаратуры. Не пярэчым, што ён увіхаўся пры тым, каб літаратура «дапамагала партыі» ў ейных справунках. Але-ж прычым тут — «служыла народу» й квітнела? Наадварот — каб была заняволенай пры зьняволеным народзе.

Заўсёды кідалася ў вочы такая рыса: чалавек пнецца абавязкава вылучыцца. Каб зварачалі на яго ўвагу, яму перла конча паказвацца ўсюды й перад усімі, быць сярод ведамых, а галоўнае — сярод тых, што рэй вядуць. Ужо на самым схіле дваццатых ды асабліва ў трыццатых гадох літаратура ў БССР з прычынаў не літаратурных, а палітычных, сталася вельмі зручнай дзялянкай для ўсялякіх кар'ерыстых. Дзеля пэўнасьці яны атайбоўваліся на паслугацтве пры партыйнай лініі. Гэтак-жа выплыў наўзьверх і Кучар у пару пагромаў на беларускую літаратуру, тэрарыстычнага пагвалчаньня свабоды творчае думкі.

Абвешчаныя партыяй «сацыялістычны наступ» і «абвойстранае клясавае змаганьне» мелі тую асаблівасьць на Беларусі, што сваім гастрыём былі ськіваваныя на вынішчэньне нацыянальнага жыцьця пад лёзунгам змаганьня зь «мясцовым буржуазным нацыяналізмам». ЦК КПБ абвесьціла яго «галоўнай небясьпекай». Гэта дало разгон паліцыйнаму нагляду за літаратурай. За яго ўхапіўся белапаўскі гадунец Кучар. Таму не па гадох ён быў самаўпэўненым і ў сваіх нястрымных наскоках на ўсё нацыянальнае ў літаратуры ды ў настырлівай, выцяганай з паліграматы павучальнасьці пісьменьнікаў.

Адпаведна партыйнаму маскаваньню на шырокія колы «сам не падкаваны» крытык апранаўся, як і ягоныя настаўнікі зь БелАПу, у «мы», «наша», у модны тады «пралетарыят», у шыльдаваю «савецкую грамадзкасьць». Патрэбна гэта было дзеля большага аплёмбу: бачыце, хто за мной стаіць, ад чыйго імя я прамаўляю. Выступаючы ў ролі пралетарскага ацэншчыка літаратуры, ён з аднолькавым спрытам шарпаў па творчасьці пісьменьнікаў старэйшых і сваіх аднагодкаў.

Вось колькі прыкладаў:

У першай палове трыццатых гадоў зь ведамым партыйным жандарам пры літаратуры Бэндэ, а то й саматугам, Кучар неўтаймавана-зьвягліва нясславіў Купалу, Коласа й Бядулю, а разам зь імі й нацыянальную гісторыю нашага народу. Янку Купалу ён з пагардаю называў «нашаніўскім прапаведнікам», а ягоны дваццацьсямігадовы творчы шлях «крывым і няпэўным».

За выдатную творчасьць кідалася пастрашлівае зьвінавачаньне у буржуазным нацыяналізьме й рэакцыйнасьці. Асабліва вытыкалася, што пісьменьнікі ня ўбачылі ў бальшавіцкім кастрычніку вызваленьня для Беларусі, ня віталі яго ды доўгі час па тым кастрычніку марылі пра незалежную дзяржаўную Беларусь, прагна жадалі ейнага прыйсьця. Непаўторных мастакоў слова бічавалі, кідалі вобземлю, каб скарыць, дамагчыся чалабітнасьці перад Масквой, выдаючы гэта за пралетарскі інтэрнацыяналізм.

Характэрна, што Кучару ня згадваюць пра наскокі на народных паэтаў Купалу й Коласа навет пасьля партыйнага «ўласкаўленьня», зь якога іх узьвялі ў сан спрадвечных савецкіх патрыётаў. Ня згадваюць, бо тыя ўводзіны ў савецкі патрыятызм зрабілі праз выгнаньне з творчасьці ўзвышанай нацыянальнай духовасьці. Хвалебнай фразэялёгіяй прыкрылі няпрыязь да магутнага нацыянальнага. «Ласка» й напасьць злучыліся ў сваёй мэце.

Зласьлівым пілнавальнікам ідэялягічнае чысьціні быў Кучар і ў дачыненьні да маладзейшых пісьменьнікаў, творы якіх не ўкладаліся ў партыйную догму. Гэтак быў трапіў у рэакцыянэры Кузьма Чорны. Кажучы жаргоннай мовай крытыка, ён «кулака задушыць ня змог» — «перад тварам наступу сацыялізму на вёсцы». У сувязі з аповесьцяй «Лявон Бушмар» сьцьвярджалася: «пазыцыі, зь якіх выходзіць творчасьць Чорнага, ня нашыя» — «пралетарская літаратура павінна ўзброіцца на змаганьне супраць творчых асноваў Кузьмы Чорнага». Ад зьвінавачанага пісьменьніка вымагалася — «трэба перамагчы самога сябе».

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

## Пралетарскі інтэрнацыяналізм ці расейскі нацыяналізм?

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

тыка і палітыка ў дачыненьні да сатэлітных краінаў праводзіцца сяньня з расейскага пункту гледжаньня. Расейская гегемонія была ў першую чаргу прычынай разрыву зь Цітам, ліквідацыі нацыянальных рэвалюцыяў у Польшчы й Вугоршчыне. Нацыянальнымі сувэрэннасьцямі Масква паслугоўваецца толькі з тактычных меркаваньняў, як манэўрам у сваёй імпэрыялістычнай палітыцы.

Параўноўваючы стары царскі і новы савецкі расейскі нацыяналізм, аўтар сьцьвярджае, што царскі нацыяналізм быў вузейшым і ня ставіў сабе за мэту стварэньне сусьветнай дзяржавы пад сваім панаваньнем. Савецка-расейскі нацыяналізм ставіць сабе такую мэту, паслугоўваючыся пры гэтым апэратыўна камунізмам.

Цікавыя высновы аўтара: «Ці азначае разьвіцьцё (расейскага) нацыяналізму ў Савецкім Саюзе, што савецкі рэжым выракся пабудовы сусьветнай дзяржавы? Усё змушае нас адказаць: „Не!" Гэтае сьцьверджаньне дазваляе нам даць адказ на іншае пытаньне: „Калі савецкія кіраўнікі не адракліся ад тварэньня сусьветнай дзяржавы, дык які тады ўплыў мае гэты нацыяналізм на вобраз запраектаванай сусьветнай дзяржавы?» Адказ на пытаньне сусьветнай дзяржавы, якую яны хочуць стварыць, будзе досыць моцны: 'Зусім проста, яны хочуць русыфікаваць сусьветную дзяржаву'».

Мы падалі прыблізны ход думак найцікавейшага для нас разьдзелу кнігі Гудмэна. На гэтым ён будуе й далейшы аналіз савецкай тэорыі і захадаў у кірунку пашырэньня «камунізму» на ўвесь сьвет і стварэньня «адзінай сусьветнай сацыялістычнай дзяржавы». Відавочна таму, што аўтар апіраецца на правільных высновах, ён не зайшоў у лес супярэчнасьцяў і памылак. Ён правільна ацэньвае савецкую нутраную й вонкавую палітыку. Ягоная кніга адна з найцікавейшых працаў, якую нам давялося чытаць на савецкую тэматыку ў амэрыканскай палітычнай літаратуры. Дай-жа Божа, каб колькасьць такіх аб'ектыўных дасьледнікаў павялічылася, а тады з русафільскай скалы ў Задзіночаных Штатах не застанецца й сьледу, што толькі спрычыніць карысьць і Амэрыцы і паняволеным Масквой народам.

**М. С.**

*) Elliot Goodman — The Soviet Design of World State — Columbia University Press, N. Y. 1960, 512 p.

## Новы падступ бязбожнае прапаганды

Ад двух гадоў вельмі ўзмаглося змаганьне з рэлігіяй на ўсім абшары Савецкага Саюзу. І гэтым разам бязбожная прапаганда вельмі шырока выкарыстоўвае запраўдных і падстаўных адступнікаў; ладзяцца зборкі, на якіх выступаюць сьвятары-адступнікі і былыя вернікі; у газэтах і брашурах друкуюцца іхныя заявы.

Але вось апошнім часам у Савецкай Беларусі здарыўся зусім адваротны выпадак — асобу адступніка і прайдзісьвета эмігранта пачалі прадстаўляць як каталіцкага сьвятара. Для гэтае кампаніі бальшавікі выкарысталі апублікаваную ў газэце Сяргея Хмары (Зіняка) «Беларускі голас» № 66 абвестку Уладыслава Рыжага-Рыскага аб тым, што ён зьбіраецца тварыць «Беларускую Каталіцкую Субожню» і ўжо зьяўляецца «Апостальскім Візітатарам» тае субожні. Бадай больш чым артыкулы з «Беларускага голасу» бальшавікі выкарысталі апублікаваную там фатаграфію Рыжага ў сутане каталіцкага сьвятара.

І вось на аснове тае хмараўскае публікацыі абласная газэта Віцебскае вобласьці, у межах якое цяпер знаходзіцца Глыбоцкі раён і в. Латыгалы, адкуль паходзіць Уладыслаў Рыжы — «Віцебскі рабочы» з дня 24-га жніўня надрукаваў артыкул: «Кар'ера дзетазабойцы». Сьледам за тым у рэдакцыю тае газэты, відаць, па камандзе з гары пасыпаліся лісты і заявы з розных вёсак Глыбоцкага раёну супраць «ксяндза-дзетазабойцы». Аб тых лістох даведваемся з бэрлінскае бальшавіцкае газэты «Голас радзімы» №№ 66 (451), 71 (456). Уся гэтая бязбожная кампанія стараецца прадставіць Ул. Рыжага ня толькі як каталіцкага ксяндза, але яшчэ як «кіраўніка беларускае каталіцкае царквы».

На эміграцыі Ул. Рыжы-Рыскі ведамы як хвараблівы мэгалёман і дзеля гэтага на ягоныя выступленьні і заявы ў хмараўскай газэце ніхто не зьвярнуў ніякае ўвагі. На бацькаўшчыне-ж камуністыя цяпер шмат пішуць аб ганебных паводзінах Рыжага падчас нямецкае акупацыі і адразу пераскокваюць да ягонае фатаграфіі ў сутане каталіцкага сьвятара, быццам нехта яго апрануў у сутану якраз за тыя паводзіны. Так бязбожнікі намагаюцца выклікаць нянавісьць да Каталіцкае Царквы.

Аб тым, што рабіў Ул. Рыжы на бацькаўшчыне ў часе нямецкае акупацыі, магчыма, лепш ведаюць ягоныя аднавяскоўцы, але аб тым, што ён выробляў і вырабляе на эміграцыі, мне давялося пазнаёміцца аж лішне добра. І я, як каталіцкі сьвятар у імя дабра беларускага народу і ў імя праўды на гэтым месцы публічна заяўляю, што Уладыслаў Рыжы (або іначай Рыжы-Рыскі) стаўся адступнікам і ад 1954 г. ня мае нічога супольнага з Каталіцкаю Царквою. Каталіцкім сьвятаром ён ніколі ня быў, хоць і быў аж у трох каталіцкіх сэмінарыях, але ў ніводнай ня кончыў навет і першага курсу. Быў ён так-жа ў двух унівэрсытэтах, але і там ня здаў ніводнага экзаміну і ня кончыў ніводнага курсу. Пасьля такіх «студыяў» ён у Мадрыдзе перайшоў да сэктантаў-эвангелістых. Тыя яго выслалі на курсы прапаведнікаў, пасьля чаго, у 1958 г. ён спрабаваў тварыць зусім новую сэкту, назваўшы яе «беларускаю хрысьціянскаю артадаксальна-паўсюднаю субожняю», але не знайшоўшы ніводнага пасьлядоўніка, перайшоў да кальвіністых і пераехаў у ЗША. Там зышоўся з польскаю сэктаю гадуроўцаў і спарадніўся зь імі.

Маючы хвараблівую манію да ганораў, Ул. Рыжы вялічаў сябе шматлікімі, найчасьцей фікцыйнымі, тытуламі; зрабіў сабе паперку зь фікцыйным тытулам доктара, нямаведама якое навукі, а сёлета да безьлічы іншых тытулаў, дадаў сабе новыя фікцыі: ксяндза і Апостальскага Візытатара. Аб тым, што гэтыя тытулы ёсьць ня чым іншым, як толькі чарговаю інтрыгаю Ул. Рыжага, можна лёгка пераканацца з тае-ж хмараўскае газэты, дзе апублікавана інфармацыя аб новых замерах Ул. Рыжага; там не ўспамінаецца ніводным словам аб тым, хто і калі высьвяціў яго, і хто назначыў Апостальскім Візітатарам. Зрэштаю беларуская эміграцыя добра ведае, што Апостальскі Пасад у 1952 г. назначыў Апостальскім Візітатарам для Беларусаў каталікаў Я. Э. Балеслава Слосканса.

Няма сумлеву, што аб усім гэтым добра ведаюць комуністычныя журналістыя ў БССР, бо-ж яны ў газэце «Голас радзімы» так у названым перш нумары, як і ў іншых нумарох няраз цытуюць дaслоўна сказы з газэты «Бацькаўшчына» — значыць яе чытаюць і, відаць, уважна сочаць за ўсімі падзеямі з жыцьця беларускае эміграцыі. Аднак камуністычныя верхаводы насупраць найясьнейшым фактам для свае бязбожнае прапаганды прадстаўляюць апастата й інтрыганта Ул. Рыжага, як каталіцкага сьвятара. Відаць, якая нікчэмная тая прапаганда, калі хапаецца за такую хлусьню! Ну, што-ж, наш народ кажа: «Які Хомка, такая яго й жонка», якая ідэялёгія, такія і мэтады яе прапаганды. Аднак праўда, як аліва, хутчэй ці пазьней, але на верх выйдзе.

**а. Леў**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

## *ВАЛАДАРКА*

**По сьлядох Слова аб Ігаравым паходзе**

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

☆

Роўна а самай поўначы (тут можна стацца ўжо зусім забабонным!) густую цемру ночы халодным агнём прарэзалі раптам сталёвыя маланкі. Зямля задрыжэла, ударыў гром і рэхам адбіўшыся аб дзьвінскае карыта, дзесьці далёка за лесам замалаціў зялезнымі цапамі па гранітным таку.

У жудаснай цішыні павісшай затым яшчэ большай цемры, чуткаму вуху Літвы, як рымскім гусям, нараз здалося, быццам яны ўжо ведаюць, што ў траве пішчыць. Сьнілася гэта ім, ці толькі з прасоньня мярэшчылася, але даволі выразна, як быццам чулі — і хлюпат вады і тупат стотысячных ног, пад цяжарам якіх серабрыстыя хвалі Дзьвіны ўзбурана пеніліся й глуха пазванівалі зброяй.

Страх перад неспадзеўкамі ночы мае такія фантастычныя, як пята Ахілесава, вочы, што ня было-б тут нічога дзіўнага, калі-б запраўды сярод асьляпляючай цемры, як здань начная, вырас-бы з-пад зямлі перад імі — у сьвятле маланак і грому — жывы цень Рамана Смаленскага:

На галаве быў зялезны шолам, на руках зялезныя рукавіцы, на шырокіх грудзях зялезны панцыр. Левай зялезнай рукой трымаў зялезнае кап'ё, у правай зялезнай руцэ быў двусечны сталёвы меч. Шчыт быў зялезны, навет конь здаваўся быць выкуты зь зялеза. Палкі за палкамі былі таксама зялезнымі, зялезам пакрытыя й зялезам падшытыя.

Не прайшло й пяці хвілін, як сонны лягер быў поўны жыцьця. Вестка аб зьбліжэньні смаленскага князя Рамана, што ішоў быццам на помач брату свайму Давіду Віцебскаму й швагру Усяславу Васількавічу, як гром зь яснага неба, упаўшы на сонныя галавы й маланкай прабегшы праз сонны лягер, падняла такі шалёны пыл, якога ня бывала навет і на алімпійскіх гульнях пад час маратонскага бегу.

Адзін толькі Валадарка, як і належылася сыну вялікага Глеба Менскага, не здраджываў прысутнасьці страху, калі наагул можна гаварыць аб страху ў прысутнасьці Валадаркі. Навет можна было-б уважаць, што ён адзін зьвяртаў на сябе ўвагу сваёй халоднай крывёй, калі-б ня тое, што якраз ніхто на нікога не зьвяртаў больш ніякай увагі, без аглядкі разьбягаючыся хто куды каторы[6]).

Паніка сярод Літвы, успыхнуўшы так неспадзявана, такжа неспадзявана хутка й закончылася, што навет і сам Цэзар, калі-б ён Літвой камандаваў, ня меў-бы нічога ўжо больш да работы. (Сваёй дарогай, той чалавек — ня Бутрымовіч гэта? — які ў свой час выдумаў лягенду аб Палемоне, вывяўшы радавод нашай Літвы ад рымскіх легіёнаў, што з Цэзарам калісьці хадзілі сабе над Нілам аглядаць эгіпецкія ночы, сорак стагодзьдзяў і нос Клеапатры, — быў усё-ж чалавекам даволі сымпатычным. Ня ў прыклад сучасным прапагатарам розных балцкіх тэорыяў, ён меў здаровае пачуцьцё гумару).

Пакінуты адзін сярод руінаў і абломкаў сваёй славы й лятуценьняў, Валадарка быў злы, як можа толькі быць злы чалавек, якога вырвалі з глыбокага сну.

Вакол зноў была цішыня, зноў безнадзейная цемра й ніякіх сьлядоў людзкога жыцьця. І калі-б ня гэтая цемра, быстрае Валадаркава вока дагледзіла-б грозна-паважнае аблічча Усяслава Чарадзея, што з высокіх нябёс паглядаў заклапочана на родную зямлю. (На гісторыю ўсё-ж такі — так срога й прыдзірліва — глядзець ня можна. Конь мае чатыры нагі й то бывала пасьлізьнецца, а што ўжо гаварыць аб ягоным двуногім сваяку... Першы блін і ў гісторыі бывае комам, але ў гісторыі затое — першаму першае й месца. Іншая справа, што Валадарка, як той слонь з байкі Крылова, якога не заўважылі, усё яшчэ чакае на свайго Калюмба, ну і на адпаведнае сабе месца ў нашай гісторыі).

☆

Полацак Валадарку больш ня бачыў, што праўда, ён і ня вельмі яго шукаў.

Валадарка, вярнуўшыся да сябе на Нёман, перанёс сваю галоўную кватэру з Гарадка ў Новы Гарадок (Літоўскі), дзе, як кажуць, даведаўшыся аб нараджэньні Чынгіс Хана, заложыў, быццам, ваенную акадэмію для лепшага й хутчэйшага мілітарнага перавышкаленьня будучых герояў з пад Сініх Вод, Грунвальду, Воршы й Кірхгольму.

Што было-б з Валадаркам далей, сказаць трудна. Рускія летапісы (на якія — зь нястачы сваіх — мы мусім апірацца), як быццам, згубіўшы на Нёмане Валадарчын сьлед, наагул з гэтага часу перастаюць цікавіцца падзеямі на нашых землях. І гэта робіцца якраз у такую хвіліну, калі на нашых землях выклёўваецца нешта вельмі цікавае — творыцца новы дзяржаўны арганізм. З увагі на такое маўчаньне летапісаў, мы сягоньня апынуліся ў палажэньні таго чалавека, які ў часе падыманьня куртыны на сцэне быў выкінуты з тэатру.

(Першы літоўскі летапісец, пачынаючы свой летапіс словамі: «У Гэдыміна было сем сыноў», як бачым далёка ў глыб вякоў не сягаў, бо ўжо за часоў Вітаўта, калі жыў гэты першы летапісец, аб старых часох мала ўжо што і ведалі, можа навет менш, як мы сягоньня. Наступныя літоўскія летапісцы сягнулі ў глыб вякоў куды далей, але не дзеля таго, што больш ведалі, але што мелі большую фантазію, якая аказалася такой багатай, што яшчэ й сяньня памагае не аднаму дыплямаванаму дурню ў ягонай навучнай кар'еры).

У канцы XII і пачатку XIII стагодзьдзяў цікавыя падзеі на нашых землях адбыліся ня толькі на Нёмане, але й на Дзьвіне, дзе разгарэлася барацьба нямецкіх рыцараў з Полацкам за Лівонію. І калі-б не нямецкія летапісы, мы-б і аб гэтым нічога ня ведалі, бо рускія летапісы й тут маўчаць, так як маўчаць аб апошніх гадох Валадаркі й ягоных наступніках. І нічога дзіўнага затым, што калі на нашыя землі ў палове XIII стагодзьдзя ўпадзе ізноў на момант гістарычны рэфлектар, — гісторыкі, пабачыўшы ў Наваградку Міндаўга, разьзявяцца на яго, як баран на новыя вароты, дзівуючыся, якой гэта сароцы спад хваста такое зьвяратка магло вываліцца.

Расейскі гісторык Тацішчаў, які ў свой час меў у сваіх руках некаторыя — сягоньня загінуўшыя — летапісы, у сваёй гісторыі падае вестку аб тым, што сын Валадаркі (Владимирко Володаревичь) вёў (у 1182 г.) змаганьне зь Ляхамі за Берасьце. Гісторык М. Доўнар-Запольскі з гэтай нагоды піша:

«Из рассказа Татищева ясно, что Владимир владел Брестом, что этот город однако принадлежал ему не как коренной удел, а только был придатком к тому уделу, который Татищев называет Минским. Борьба на Буге кого нибудь из Глебовичей Минских, их походы к Бресту, Дорогичину весьма сомнительны, даже невозможны: Минскому князю с маленьким войском из своего маленькаго удела трудно было бы делать огромные переходы к Дорогичину и вообще в Подляшие, с которым Полоцк не связывало ни одно событие предшествующего времени».

Як бачым, М. Доўнар-Запольскі (хоць наша костка, але моцна надгрызена ракам «западно-руссізму»), праспаўшы Валадарку, ужо — прачнуўшыся — ня вельмі ар'ентуецца ў тым, што на гістарычнай сцэне творыцца. Але дзівіцца тут няма чаму. Гісторыя, як навука, яшчэ вельмі маладая і ўсё шчэ знаходзіцца ў дзіцячых пялёнках, і нічога дзіўнага затым, што гістарычныя кніжкі (з маёй пісанінай уключна) сьмярдзяць нямытымі пялёнкамі.

**Часлаў Будзька**

[6]) Се жэ дівно сдеяся: в полуноцы бысть гром сілен, яко воем бродяшымся чэрэз рэку, і страх нападе на воя Володарэвы. І рэкоша дружына Володарэві: «что стоішы, княжэ, но поеда прочь? а се ті ся Роман бродіть, а отсюда Давыд». І побежэ Володарь от Вітебьска. І заутра сгляда Давыд, ожэ Володарь бежал, і пусті по ніх, і не постігоша іх, но по лесу блудяшчых много ізоімаша. А Всеслава посла Полотьску.

# Без прапагандовых прыкрасаў

Няшмат хто з нашых чытачоў на эміграцыі сыстэматычна чытае БССР-аўскую прэсу. Звычайна, калі й трапіць каму пару паасобнікаў менскіх газэтаў (правінцыяльных дастаць бадай нельга), дык — выбачце за слова — прапагандовы смурод хутка адбівае яму ахвоту ад чытаньня. Мы-б сказалі, што ўсходнябэрлінскі КГБ-скі лісток «Голас Радзімы», які выдаўцы пхаюць нахабна ўсім эмігрантам, карыстаецца большым посьпехам. У нашай эміграцыйнай прэсе гумару мала, а ў «Голасе Радзімы» затое з кажнага артыкулу жывот можна надарваць ад сьмеху. У ваднім з апошніх нумароў, прыкладам, быў сфабрыкаваны ліст нейкага Беларуса з Ангельшчыны, які, быццам, нядаўна наведаў БССР.

І вось той уяўны Беларус жаліцца, параўноўваючы «шчасьлівае» жыцьцё ў БССР з жыцьцём беларускіх эмігрантаў у Ангельшчыне, што кваліфікаванаму работніку ў Вялікабрытаніі ледзь стае заработнае платы, каб пражыць, а калі захварэе, дык і капейкі няма для лекара... Эх, ці не задалёка вы загаляпаваліся, рэдактары «ліста»? Ці ня трапіць вам за гэта ад вашага начальства з КГБ? Кажды-ж, выбачайце, дурань ведае, што ў Вялікабрытаніі мэдыцынскае абслугоўваньне цалкам знацыяналізаванае, і пацыент ня плаціць за мэдыцынскую дапамогу **літаральна нічога!** І гэта навет незалежна ад таго, працуе ён ці не... Як-жа пасьля такіх казусаў вы хочаце, каб чытачы верылі вашым казкам аб нябывалых дасягненьнях у Беларусі?

Якраз на гэтых «дасягненьнях» мы й хочам гэтым разам спыніцца. Спыніцца без прапагандовых прыкрасаў, але й без згушчваньня хварбаў. Спыніцца на голых фактах, якія прасачыліся зь Беларусі праз шчыліны зялезнай заслоны.

Нейкі тыдзень таму на адрас рэдакцыі прыйшоў ліст з Польшчы. Гэта-ж не навіна, — скажуць чытачы. Аднак ліст, пра які мы гаворым, своеасаблівы. Інтэлігентная жанчына-Беларуска апісвае сваё падарожжа ў БССР, зь якога яна вярнулася крыху больш за месяц таму. Не прэтэндуючы на літаратурныя здольнасьці, яна аднак падае безьліч цікавых дэталяў і сваіх спасьцярогаў. Гэты ліст вартасны яшчэ й тым, што, як ведаем, і ў Польшчы ў параўнаньні з Захадам жыцьцё не засалодкае. Таму, калі гаворыцца там аб нястачах і нягодах беларускага насельніцтва ў БССР, дык мы можам быць пераканаными, што хварбы ў гэтым выпадку не згушчаныя, што нястачы й нягоды не адносныя, а бадай абсалютныя.

Чытачы разумеюць хіба, што ні прозьвішча, ні месца жыхарства аўтаркі ліста падаць тут ня можам.

Падчас свайго падарожжа аўтарка наведала Менск, Заслаўе, Радашкавічы, Краснае, Маладэчна і Залесьсе. Каля трох тыдняў гасьцявала ў цёткі ў сваёй роднай вёсцы, у былой Маладэчанскай акрузе.

Пастараемся сыстэматызаваць ейнае апісаньне. Спачатку некалькі словаў аб жыцьці ў гарадох, і першым чынам — у Менску. Аўтарка сьцьвярджае, што ў гарадох жыцьцё шмат лягчэйшае, чымся ў калгасах, не гаворачы ўжо аб саўгасах (да гэтага яшчэ вернемся). Скажам, сталы хвабрычны работнік-спэцыялісты зарабляе 1000-1200 рублёў у месяц. Шофэр таксі, зь якім даволі доўга й свабодна гаварыла аўтарка ліста, зарабляе каля 1200 рублёў. Калі зь сям'і працуе яшчэ нехта, дык зь бядой папалам жыць можна. Хоць кватэры адносна танныя, (праблема дастаць — чакаюць гадамі), за тысячу рублёў сям'і ўтрымацца ніяк нельга — гэта пацьвердзіў у гутарках цэлы шэраг асобаў.

Сэзонны работнік зарабляе ня больш за 400-500 рублёў (дарэчы, сэзонныя работнікі — пераважна зь вёсак, з калгасаў).

А вось некалькі цэнаў:

Мужчынскі неблагі касьцюм — 1600 рублёў; штаны — 320 рублёў; вышываная сарочка — 200 рублёў; кашуля дрэннай якасьці — 100 рублёў. Нятанныя і харчовыя прадукты: Хлеб — 1—1,5 рублёў; Сьвіное мяса з касьцямі — 16 рублёў за кіляграм; сыр — 25 рублёў за кіляграм; кіляграм каўбасы — 25 рублёў.

Дзеля таго, што ў бальшыні выпадкаў заработку не стае, людзі «камбінуюць». Найлепш маюцца тыя, хто мае хоць кавалачак гароду: калі ня ўся гародніна спажываецца сям'ёй, дык улетку гэта поўная крыніца прыбытку. Дзеля таго, што ў дзяржаўных магазынах амаль ніколі іх няма, на рынках гародніну і фрукты разхопліваюць.

Але-ж далёка ня ўсе маюць шчасьце мець гарод. Бальшыня мусіць шукаць іншых спосабаў заробку. І знаходзіць: шмат хатніх гаспадыняў займаецца дробнай спэкуляцыяй, як, прыкладам, перапрадваньнем харчовых прадуктаў, купленых у дні кірмашу ад сялян-калгасьнікаў. Іншыя, праўдай-няпраўдай, здабыўшы недзе воўны, вяжуць і прадаюць шалікі, шапкі і гэтак далей. Дзеля таго, што ў магазынах гэтых рэчаў не стае, такі гандаль квітнее. Яшчэ іншыя перапрадваюць самагонку, купленую ад калгасьнікаў. Гэта таксама добрая крыніца прыбытку, бо «хвабрычная» гарэлка ня так танная: паўлітра водкі каштуе 24 рублі, а «сталічнае», маскоўскае — навет 30. І вось такім чынам людзі сьцягваюць канцы з канцамі. Жыць-жа трэба...

Як мы казалі вышэй, аўтарка ліста, зь якога мы чэрпаем усе гэтыя дадзеныя, пражыла каля трох тыдняў у вадным калгасе. Жыцьцё на вёсцы яна апісвае куды шырэй, чымся жыцьцё гарадзкога насельніцтва. Чытаючы, робіцца жудасна... Але аб гэтым — наступным разам.

**(Працяг будзе)**

**Ул. Немановіч**

## Сьвежае, а так старое

**(Заканчэньне з 3-яе бачыны)**

сьвятых, ці часамі рука мудрага маскоўскага кніжніка, хай сабе й манаха, не напісала нам «жіт:е» для пэўнае мэты, не забываючыся, а памятаючы: «тайну цареву храні...»

**ПРАРОЦТВА АБ НАРАДЖЭНЬНІ ІВАНА ВАСІЛЬЕВІЧА**

Прішедшему некогда архіепіскопу блаженному Евфімію во обітель св. Ніколы, Вежішча, тако наріцаемою, яко строеніе того бе обітель она, в нейже архангельскій образ пріят, і часто тамо сьвятому архіепіскоп пріходяшчі градскіх раді молв. Единою же ему прішедшему, случіся св. Міхаілу в той обітелі пребываті в то время, і срете архіепіскопа глаголя:

днесь во царствуюшчім граде Москве радость.

Архіепіскоп же спросі святого:

что віна радості оныя?

Сьвятый же рече:

днесь родіся велікого князю Васілію сын і нарекоша імя ему Тімофей, Іван же пакі наречеся; сей царство его наследнік будет і всем странам страшен, Велікій же Новгород пріметь і вся наша обычаі ізменіт, і злата многа от вас прііеть, і вас в свою землю пріведеть. Зріте же мі дару пророчествія: прежде колкіх лет святый предвешча, яже по четыредесяті летех совершіся пророчество!

**ПРАРОЦТВА АБ НОЎГАРАДЗЕ**

Ізшедшу некогда святому із келіі, і віде велможу некого, Івана іменем, наріцаемога Неміра, в обітель пріщедша, і срете, і глаголя:

откуда пріщедші, чадо, і что віна прішествія твоего?

он же рече:

прідох пріяті благословеніе от твоея сьвятыні! Молі Его, глаголя:

моліся, святче Божій, яко хошчеть князь велікій іті воеваті Велікого Новгородо а мы імеем у себе князя Міхала Алелковіча.

Отвешчав же святый:

почто, безумнії, яко піянії мятетеся? Ашче не утоліте гнева доброчестівого цара Івана Васілевіча, то многі беды пріиміте; прішед бо за неісправленіе ваше, станет в берегах і многу победу покажет над вамі і страну вашу пленіт, і многіх от вас велмож посеченію предасть, другіх же в плен отведет; а на него надежду імате, сей князь ні себе помашчі не возможет, і сам бегун явітся; второе же пріідет благословенный велікій князь Іван, град ваш прііметь і всю свою волю сотворіт. Како, безумнії, сему протіветіся хошчете, іже прежде рожденія рэчено о нем, яко сему обычая ваші переменіті. Сія же святому пророчествуюшчу, і последі слово святого в дело пріходіт і пророчество святого совершеніе пріімать. Сіцевы убо святого подвізі і сіце восприіметь возданія толіку дару сподобіся, яко преградушчая вся сведаті тому, да сбудется пророческое оное реченіе: бозі будете сынове Вышняго всі; і пакі реченое Хрістом: веруй в мя, дела, я же аз творю, і той сотворіт, і болша сіх сотворіт.

**Міхась Белямук**

**(Працяг будзе)**

*Замест фэльетону*

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

**да карэспандэнтаў «Бацькаўшчыны» ў Эўропе**

Высокапаважаныя Спадары!

Дзеля таго, што беларуская асяродзьдзі ў Эўропе меншыя й Вашыя абавязкі перад «Бацькаўшчынай» сьціплейшыя, — я сабраў Вас зь Лювэну, Мюнхэну, Мадрыду й Парыжу ў вадзін пучок. Прашу ня крыўдзіцца, мы аўстралійскія Беларусы ўсёроўна рэспэктуем Вас, як і іншых карэспандэнтаў. Дасюлешні мой, г. зн. ад імя аўстралійскіх Беларусаў зварот нажаль, ня даў пажаданых вынікаў. Але мы маем надзею, што Вы супольна натужыцеся й пакінеце нам хоць гнілую дзічку. Дазвольце-ж, не адкладаючы, зьвярнуцца да Вас з наступным:

Па-першае, ці ёсьць у Лювэне студэнты Беларусы? Калі ёсьць, дык чаму яны не пяюць, не танцуюць, наагул, ня шумяць? Якая гэтаму прычына? Відаць, яны зморшчыліся, скарпацелі і перасталі равець.

Па-другое, непакоіць нас гультайства працаўнікоў Беларускай сэкцыі Радыя «Вызваленьне». Вось ужо каторы год чакаем выхаду другое часткі «Гаворыць Радыя «Вызваленьне», а яе як няма — так няма. Калі ў іх можа не хапае свайго матарыялу, дык маглі-б зьвярнуцца да Беларускай сэкцыі Мадрыдзкага Радыя. Тыя, думаем, ахвотна што-небудзь падкінулі-б ім, і супольна выдалі-б на адчэпнае кніжку. Адзін наш Беларус, які вельмі пільна сочыць за беларускімі падзеямі й неяк ухітраецца чытаць газэты паміж радкоў, цьвердзіць, што Мадрыдцы ўжо здабываюць большы давер у нашым урадзе.

Па-трэйцяе, што там парабляюць нашыя мадрыдзкія робінзоны? Хоць-бы якую вестачку аб іх падалі, ці яны ўжо там прадрашылі змагацца да сьмерці ў вадзіноцтве? Як яны там жывуць? Ці яны сяньня мелі што-небудзь на сьнеданьне? А вам, спадару карэспандэнт у Мадрыдзе, скажам, проста ў вочы: як Вам ня сорамна маўчаць?

Па-чацьвертае, не аднаму нашаму Беларусу хацелася-б паехаць у Парыж, як у нейкую Мэку. Усё-ж там добра і весткі стуль часьценька даходзяць. Толькі вось адно бянтэжыць нас — гэта назоў «Парыскі Блёк». Калі, мы, асабліва тыя Беларусы, якія жылі пад польскай акупацыяй, часьценька чытаем «Парыскі Блёк», дык гэтае слова «Блёк» нам чамусьці заўсёды нагадвае «Беспартыйны Блёк супрацоўніцтва з урадам». Ці ня можна было-б зьмяніць назоў гэтае так паважанае арганізацыі? Ды, апрача ўсяго, гэты назоў навет трохі наагул не падходзіць і выклікае непатрэбныя асацыяцыі: блякада, заблякавацца й пад.

Паважаныя Карэспандэнты! Каб Вас заахвоціць, я тут падам для прыкладу вестку з нашага беларускага аўстралійскага жыцьця.

Нядаўна на запросіны пражываючых тут Югаславаў прыехаў у Аўстралію іхны экс-кароль Пётр. Ну, зразумела, і расейскія арганізацыі запрасілі яго да сябе, прывялі ў сваю царкву. Туды, бязумоўна, пайшлі й нашыя зарубежнікі, каб прыняць удзел у «таржастве». (Між намі кажучы, нашыя зарубежнікі, прыходзячы да расейскае царквы, заўсёды стараюцца гаварыць між сабой парасейску, а тыя, што ня ўмеюць, дык шэпчуць). Наагул цяжка сьцьвердзіць, ці зарубежнікі таксама крычалі «ура», «жывіо» разам з Расейцамі. Наш адзін крывіч, які заўсёды ўсаджвае свой нос, куды ня трэба, гаворыць, што ня чуў, ці крычалі, бо быў далёка на вуліцы, але-ж бачыў, як разяўлялі раты. Пасьля зарубежнікі паважна праслухалі многалецьце экс-каралю і з сумам праслухалі малебства за упакой царя Мікалая з сям'ёй.

Прыміце, Спадары Карэспандэнты... і г. д. паводля прынятага шаблёну.

Аўстралія

**Міхась Папярэчка**

# Зь беларускага жыцьця

## Передвыбарная кампанія й Беларусы

Зь ініцыятывы кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў ЗША й галоўнае ўправы БАЗА быў зладжаны перадвыбарны інфармацыйны вечар у суботу 15-га кастрычніка сёлета ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Нью Ёрку. Кіраўніком вечару быў сп. М. Казьлякоўскі, сакратар Ньюёрскага Аддзелу ЗБМ.

На вечар прыбылі прадстаўнік ад Рэспубліканскай партыі карэспандэнт спадар Антон С. Фалько й ад Дэмакратычнай партыі, адвакат сп. Фрэдэрык Фурт. Вечар распачаўся кароткай уступнай прамовай сп. Казьлякоўскага, які прадставіў прысутным госьцей і падаў да ведама праграму зборкі. Тады быў паказаны фільм з жыцьця й дзейнасьці сэнатара Джона Ф. Кэнэды, кандыдата на прэзыдэнта ЗША ад Дэмакратычнай партыі, а пасьля яго фільм з жыцьця й дзейнасьці віцэ-прэзыдэнта Рычарда М. Ніксана, кандыдата ад Рэспубліканскай партыі на прэзыдэнта ЗША.

Першым забраў слова прадстаўнік Дэмакратычнай партыі сп. Фурт, які выясьняў прысутным, чаму яны павінны галасаваць за Кэнэды. Пасьля яго гаварыў ад Рэспубліканскай партыі сп. Фалько, які абшырней і больш дынамічна падаў аргумэнты, дзеля якіх варта галасаваць за Ніксана. Наступным прамоўцам быў старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. К. Мерляк, які падробна затрымаўся над праводжанай палітыкай абедзьвюма партыямі й іхнымі адміністрацыямі з гледзішча Амэрыканцаў беларускага паходжаньня. Прадстаўнікі абедзьвюх партыяў падалі выясьненьні ў вапраўданьне праводжанай кажнай з партыяў палітыкі.

Вечар закончыўся супольным пачастункам.

**Д. Маяк**

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

## Нельга маўчаць

**(Заканчэньне зь 1-ай бач.)**

час змушаныя аддаваць заработнай працы. Прыкладам лекары, якія займаюцца прыватнай практыкай. Зусім было-б нармальна й справядліва, калі-б гэтыя людзі, якія звычайна маюць вельмі высокія даходы, рэкампэнсавалі сваю грамадзкую безьдзейнасьць грашовымі ахвярамі на розныя грамадзкія мэты. Ніякі сакрэт, што для грамадзкай дзейнасьці ня меней, чымся людзі, патрэбныя й грошы. У запраўднасьці-ж бывае так, што калі мала зарабляючыя людзі даюць ахвотна ў кажным канкрэтным выпадку, прыкладам, па аднаму даляру, дык тыя, што ў прыраўнаньні зь імі зарабляюць шмат, даюць па пяць даляраў, пры гэтым зробяць міну, што свой грамадзкі абавязак перавыканалі ў пяць разоў. Сярод іншых нацыянальнасьцяў бываюць запраўдныя мэцэнасы розных грамадзкіх і нацыянальных пачынаньняў, якія, толькі сваімі сяродкамі, сьфінансоўваюць вялікія навет справы. Нажаль, толькі ня ў нас!

Закранутае гэтта пытаньне ня ёсьць, як некаторым здаецца, чыста асабістай справай тых, пра якіх тут мова. Гэта пытаньне агульна грамадзкае і належна рэагаваць на яго павінна ўсё грамадзтва. Рэагаваць трэба становача й бязьлітасна!

**Ст. Крушыніч**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЫЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Ліст у Рэдакцыю

У кніжцы «За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі», выдадзенай БЦР, на бачыны 78 зьмешчана «Асьветчаньне», падпісанае Р. Астроўскім, Ю. Сабалеўскім і І. Касяком, якое сьцьвярджае, што яны мелі ў сваіх руках і чыталі дакумант НКВД з 1931 году, які датычыўся абвінавачаных і засуджаных былых паслоў у Польскі Сойм і іншых беларускіх дзеячоў з часоў Грамады й «Змаганьня», што апынуліся ў Савецкім Саюзе.

Я ня буду спрачацца, ці запраўды быў у іхных руках такі дакумант, а калі быў, дык чаму яго не паказалі й не далі прачытаць яшчэ каму-небудзь, чаму яго не захавалі, ці не адпісалі. З «Асьветчаньня» відаць, што гэтага так важнага й цікавага дакуманту, які складаўся з 250 бачынак машынапісу, цяпер няма, бо аб ім гаворыцца ў прошлым часе: «дакумант складаўся», «падаваліся паказаньні» і г. д. Зусім зразумелым быў для мяне абзац, у якім гаворыцца, што справы Р. Астроўскага (?), Б. Тарашкевіча, і Ю. Сабалеўскага былі выдзелены, дзеля прабываньня іх паза абсягам савецкае ўлады, вось моў, чаму ў гэтым дакуманьце аб іх не ўспамінаецца. Толькі мяне крыху зацікавіла, чаму гэтае «Асьветчаньне» падпісаў пакойны Ю. Сабалеўскі, а не пакойны М. Шыла.

Найбольш аднак мяне зацікавіла тое месца ў гэтым дакуманьце, дзе пералічаныя прозьвішчы засуджаных былых вучняў беларускіх гімназіяў. Між іншымі — і прозьвішча І. Шалешка. Гэтага хлапца я добра ведаў, бо ягоны старэйшы брат Уладзімер Шалешка, былы сакратар Віленскае Беларускае Гімназіі, быў маім прыяцелем яшчэ зь дзіцячых гадоў, а пасьля школьных. Гэта выклікала ў мяне патрэбу падзяліцца ўспамінамі таго жудаснага дня, калі ў Вільні пан Р. Астроўскі выдаваў польскай дэфэнзыве сваіх гадунцоў — вучняў гімназіі. У тыя часы я працаваў па арганізацыі беларускіх каапэратываў і мой стол знаходзіўся ў памяшчэньні Беларускага Банку на Віленскай вуліцы. Уваходзіць моцна здэнэрваваны й абураны інспэктар гімназіі Паўловіч і апавядае, што робіцца ў гімназіі. Спачатку прысутныя не зразумелі, успакойвалі яго, а пасьля зразумелі й замоўклі, глядзячы адзін на другога — гэтакая подласьць, сам-жа іх узгадаваў і... выдаў. Прыпадкова быў прысутны тут радны места Вільні Крук, староньнік санацыі Астроўскага, і ён сказаў: «Трэба-ж ачысьціць гімназію ад камсамольцаў». Паўловіч з такім абурэньнем накінуўся на яго, што мы баяліся, каб гэты лагодны, мяккі чалавек, ахвярны пэдагог, які так любіў дзяцей і моладзь, не пабіў Крука. Ён крычаў: «Гэта-ж дзіцячая душа — воск, зь яе можна выляпіць, што хочаш!»

Вечарам таго-ж самага дня прыбег да мяне на памешканьне (пакоік на дваіх) 15-гадовы Я. Шалешка й прасіўся пераначаваць, бо зь інтэрнату паўцякалі ўсе тыя вучні, якіх паліцыя мелася этапным парадкам адаслаць дадому. Прасіў ён дазволу прывесьці яшчэ пару хлапцоў. Пазьней прыйшоў зь імі. Сярод іх быў 14-гадовы худзенькі Стаўбунік. Той Стаўбунік, сын хворае ўдавы з Пружан, які з адчаем крыкнуў у вочы Астроўскаму: «Вы... пане дырэктар, зраднік!» Думаю, што пан Астроўскі памятае Стаўбуніка!?

Некалькі наступных начэй прыходзілі хлопцы, начавалі, пакуль не рассыпаліся — хто куды. Зломанае дзіцячае жыцьцё й далейшы свой лёс у канцэнтрацыйных лягерах Савецкага Саюзу заўдзячваюць яны пану Радаславу Астроўскаму.

**А. Васіленя**


**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
Mr. Aleksander Laszuk, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
Mr. A. Vasilena, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
Mr. A. Maroz, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
Mr. W. Akavity, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
Mr. C. Cimaficjčyk, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
Mrs. L. Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
Mr. B. Danilovich, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
Mr. Ul. Duniec, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon, Paris 9.
Mr. W. Kasztelan, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).






Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не звачоўваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.